*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 27 (135) ◈ 7 ліпеня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*Сардэчна вітаем дэлегатаў I з'езда беларусаў свету. Жадаем і надалей быць карыснымі беларускай зямлі.*

◆

**З ЛІПЕНЯ СПОЎНІЛАСЯ 49 ГАДОЎ З ДНЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ АД ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ.**

◆

***РАШЭННЕМ ВУЧОНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА** Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі, мітрапаліту Менскаму і Слуцкаму, доктару багаслоўскіх навук Філарэту прысвоена ступень ганаровага доктара Белдзяржуніверсітэта.*

◆

**НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА** дэпутацкая большасць спрабавала выказаць недавер Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславу Шушкевічу, але з гэтага ў іх нічога не атрымалася. Дні супрацьстаяння паказалі, паводле меркавання самога Станіслава Шушкевіча, што Канстытуцыю гэтым парламентам прыняць нельга. Значыць, не будзе пакуль што і Закона аб выбарах.

◆

***РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ З ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА ЛЕХ ВАЛЕНСА.** Ніякіх дакументаў не было падпісана. Лех Валенса ў час адной гутаркі сказаў, што палякі, якія жывуць у Беларусі, павінны сумленна служыць краіне пражывання.*

◆

У сувязі з увядзеннем Латвіяй і Эстоніяй візавага рэжыму уезду-выезду на тэрыторыю гэтых краін для грамадзян Беларусі Савет Міністраў прыняў пастанову, у адпаведнасці з якой з 1 ліпеня 1993 года ў сваю чаргу ўстаноўлены візавы рэжым уезду-выезду на тэрыторыю нашай краіны для грамадзян Латвіі і Эстоніі і асоб без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць у гэтых дзяржавах.

◆

***З 7 ЛІПЕНЯ ПАМІЖ ГРОДНА І БЕЛАСТОКАМ** адкрылася паветраная лінія, па якой двойчы на дзень будзе лятаць самалёт Л-410.*

◆

**ПАД СТАРШЫНСТВАМ ГЕНЕРАЛЬНАГА ПРАКУРОРА БЕЛАРУСІ ВАСІЛЯ ШАЛАДОНАВА** адбылося пасяджэнне калегіі Пракуратуры рэспублікі, на якім разгледжаны выкананне ў Гомельскай вобласці заканадаўства аб ліквідацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС і арганізацыя пракурорскага нагляду за яго выкананнем. На сённяшні дзень у забруджаных раёнах пражывае 15 500 сем'яў.

## Паходня волі і незалежнасці не павінна згаснуць

*Нацыянальны Арганізацыйны Камітэт па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў Вызвольнага Паўстання 1794 года распаўсюдзіў Зварот да беларускага народа, у якім гаворыцца:*

«Наступны, 1994 год вяртае нас да адной з гераічных старонак мінуўшчыны: 200 гадоў таму нашыя продкі, сумесна з палякамі, пад агульным кіраўніцтвам Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, беларуса з паходжання, узняліся на вызвольнае паўстанне супраць іншаземных акупантаў ды іх памагатых. Паўстанцы ішлі ў бой пад сцягамі, на якіх былі словы — Воля, Роўнасць, Незалежнасць.

24 красавіка 1794 года ад расійскіх захопнікаў была вызвалена Вільня, утворана Найвышэйшая Рада Вялікага Княства Літоўскага. Паўстанцкае войска ў Вялікім Княстве ўзначальваў генерал Якуб Ясінскі. У змаганні бралі ўдзел усе станы грамадства — шляхта, сяляне, мяшчане, людзі розных веравызнанняў. Колькасць паўстанцаў на Беларусі дасягала 20 тысяч.

Полымя паўстання ахапіла значную частку краіны. Але барацьба была няроўная. Загартаваная ў захопніцкіх паходах расійская армія Суворава задушыла паўстанне.

Беларускі народ заўжды захоўваў памяць пра гэты гераічны чын і свайго суайчынніка Андрэя Тадэвуша Касцюшку. Пазней яго велічны вобраз натхняў змагароў за свабоду ў 1831 і 1863 гадах. Кастусь Каліноўскі пісаў пра Касцюшку як пра абаронцу інтарэсаў беларускага народа, заклікаў сваіх паплечнікаў быць годнымі славы мужных барацьбітоў 1794 года. Тым самым ён здзейсніў і паказаў пераемнасць вызвольнай традыцыі ў нашай гісторыі.

Святкаванне юбілею паўстання адбудзецца ў Беларусі ўпершыню. Гэтая падзея павінна аб'яднаць нас вакол вялікай справы Адраджэння. Паходня волі і незалежнасці, запаленая паўстанцамі 1794 года, не павінна згаснуць».

У Нацыянальны Арганізацыйны Камітэт па святкаванні на Беларусі 200-х угодкаў Вызвольнага Паўстання 1794 года ўвайшлі:

Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Мікола Купава, Мікола Анцыповіч — БНФ «Адраджэньне»; Анатоль Грыцкевіч, Лявон Акаловіч — Згуртаванне Беларускай Шляхты; Радзім Гарэцкі, Лія Салавей, Іван Саверчанка, Уладзімір Мархель, Уладзімір Емяльянчык, Леў Мірачыцкі — Акадэмія навук Беларусі; Зьміцер Санько, Мікола Савіцкі — ТБМ імя Ф. Скарыны; Адам Мальдзіс — Міжнародная асацыяцыя беларусістаў; Мая Кляшторная — Мартыралог Беларусі; Мікола Крукоўскі — прафесар БДУ; Язэп Юхо — прафесар БДУ; Уладзімір Савянок, Жорж Харахноў, Алесь Несцяровіч, Алесь Станкевіч — БЗВ; Віктар Навуменка, Віталь Кошалеў — НДПБ; Мікола Гіль — газета «ЛіМ», БСДГ; Здзіслаў Сіцько — газета «Навіны БНФ»; Сяргей Законнікаў — часопіс «Полымя»; Эрнэст Ялугін — газета «Наша слова»; Кастусь Цвірка — Беларуская сялянская партыя; Вольга Іпатава — газета «Культура»; Яраслаў Пархута, Анатоль Клышка — СПБ; Аляксей Марачкін, Яўген Кулік — творчая суполка «Пагоня» СМБ; Віктар Войцік — Аўтарскі фонд кампазітараў Беларусі; Міхась Басалыга — Саюз мастакоў Беларусі, Менскае мастацкае вучылішча; Ірына Зварыка — Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі; Віталь Скалабан — Беларуская Энцыклапедыя; Ганна Сурмач — ЗБС «Бацькаўшчына»; Васіль Талстой — Беларускае Краязнаўчае Таварыства; Галіна Вашчанка — дэпутат Менгарсавета, Камітэт БНФ «Дзеці Чарнобыля»; Андрэй Завадскі — дэпутат Менгарсавета; Людміла Пеціна — Жаночы Хрысціянска-Дэмакратычны рух Беларусі; Валеры Грыцук — Беларускі фонд імя Льва Сапегі; дэкан а. Ян Матусевіч — Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква; Ігар Міхно — Выбранецкія шляхты Беларусі; Уладзімір Базан — Берасцейская рэгіянальная Рада БНФ «Адраджэньне»; Зьміцер Абразцоў — Свабодны прафсаюз, г. Вілейка.

## КАЛІ ДЭПАЛІТЫЗАВАЦЬ ВОЙСКА, ДЫК УСЁ, А НЕ ТОЛЬКІ БЗВ

На пачатку чэрвеня Цэнтральная Рада БСДГ распаўсюдзіла ў сродках масавай інфармацыі заяву «Аб адносінах да становішча ва Узброеных сілах краіны», у якой гаворыцца:

«...З боку Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь раздаецца шэраг абвінавачванняў у адрас грамадска-патрыятычнай арганізацыі Беларускае Згуртаванне Вайскоўцаў, якая лічыць сваім галоўным накірункам дзейнасці абарону незалежнасці і дэмакратычнасці беларускай дзяржавы, якая прапагандуе патрыятызм, робіць намаганні вярнуць у войска беларускую мову і гістарычныя вайсковыя традыцыі.

У адрас сяброў Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў раздаюцца пагрозы звальнення, многія з актывістаў БЗВ ужо звольнены з Узброеных сіл альбо беспадстаўна, альбо па сфабрыкаваных падставах. Сярод іх палкоўнік Уладзімір Савянок, які прымаў актыўны ўдзел у выкрыванні карупцыі сярод вышэйшых армейскіх чыноў. 7 мая па абвінавачванні ў палітычнай дзейнасці, з фармулёўкай «за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра» быў звольнены старшыня Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў падпалкоўнік Мікалай Статкевіч, які да гэтага часу не меў па службе ніякіх спагнанняў.

Адначасова ў беларускім войску адкрыта вядзецца антыдзяржаўная прапаганда, бесперашкодна выступаюць радыкальныя прадстаўнікі расійскай апазіцыі, прыхільнікі рэанімацыі СССР альбо Расійскай імперыі. Ва Узброеных сілах актыўна дзейнічаюць палітычныя арганізацыі «Славянский собор» і «Союз офицеров», якія ўваходзяць у палітычную арганізацыю «Народны рух Беларусі». Вайскоўцы, якія адмаўляюць суверэнітэт Беларусі і зневажаюць яе дзяржаўнасць, адкрыта выказваюць свае погляды, прымаюць удзел у шэсцях і мітынгах пад сцягамі былых СССР і Расійскай імперыі, і гэта не выклікае з боку Міністэрства абароны ніякай рэакцыі.

Нягледзячы на забарону палітычнай дзейнасці вайскоўцаў, ніводны дэпутат Вярхоўнага Савета, які знаходзіцца на дзейнай ваеннай службе, не склаў з сябе дэпутацкіх паўнамоцтваў, гэта таксама застаецца незаўважаным ні ў Міністэрстве абароны, ні ў дзяржаўных структурах, якія павінны сачыць за выкананнем заканадаўства.

У той час, як тысячы афіцэрскіх сем'яў не маюць жылля, шэраг вышэйшых армейскіх чыноў незаконна будуе сабе асабнякі, займаецца хабарніцтвам і раскраданнем вайсковай маёмасці. Выкрытыя з дапамогай БЗВ факты злоўжыванняў ва Узброеных сілах былі накіраваны ў адпаведныя дзяржаўныя органы, аднак пакуль што ні адзін з гэтых фактаў не атрымаў праўнай ацэнкі. Ніводная з'ява хабарніцтва не была кваліфікавана з боку Міністэрства абароны як дыскрэдытацыя звання афіцэра. Наадварот, афіцэры і генералы, павінныя ў карупцыі, звальняліся з войска па выслузе гадоў, альбо па скарачэнні, альбо наогул з падзякай.

Калі мы сапраўды імкнёмся стварыць дэпалітызаваныя, патрыятычныя Узброеныя сілы, якія адпавядаюць цывілізаваным маральным нормам, калі мы ставім на мэце пабудову праўнай дзяржавы, дзе ўсе грамадзяне роўныя перад законам, неабходна, каб факты парушэння правоў чалавека, карупцыі і антыдзяржаўнай палітычнай дзейнасці ва Узброеных сілах не засталіся па-за ўвагай грамадства і дзяржавы.

У якасці першапачатковай меры БСДГ прапануе ўнесці ў Закон «Аб статусе ваеннаслужачых» канкрэтнае вызначэнне форм палітычнай дзейнасці «забароненых вайскоўцам, якое б выключала магчымасць маніпуляваць заканадаўствам».

Меркаванні

*А. ПАДЛУЖНЫ,*
*доктар філалагічных навук*

# СХЕМЫ, НОРМЫ, РЭАЛЬНАСЦЬ...

## Некалькі заўваг да рэкамендацый па ўдакладненні правапісу

Трэці з'езд ТБМ па прапанове правапіснай камісіі прыняў рэкамендацыі па ўдасканаленні правапісу. Большасць з іх закранае такія пытанні, якія ўзнікаюць пры карыстанні сучасным правапісам і якія, безумоўна, неабходна ўлічыць, бо яны накіраваны на ўстараненне непаслядоўнасцей або выключэнняў з цяперашніх правіл. Праўда, не ўсе фармулёўкі можна безагаворачна прыняць за аснову з-за іх недакладнасці.

Найбольш недакладна сфармулявана першая рэкамендацыя: «Абазначаць у межах слова памякчэнне зычных *з, с, дз, ц* пры дапамозе мяккага знака перад мяккімі зычнымі (акрамя *г, к, х)* і ётавымі галоснымі: *зьвер, лазьня, прозьвішча, сьнег, сьпяваць, у масьле, радасць, дзьверы, цьвік, зьехаць, зьява, разьюшыцца, зьёрзаць.*

Мяккі знак мае пісацца таксама пры абазначэнні мяккіх падоўжаных (падвойных) зычных (за выключэннем *дз*'): *ральля, пытаньне, палозьзе, Палесьсе, свацьця,* але *суддзя»*.

Першая частка рэкамендацыі перадае сутнасць адпаведнага правіла, сфармуляванага Б. Тарашкевічам з дадаткам, што мяккасць *з, с, дз, ц* перадаецца ў межах слова. Гэта азначае, што памякчэнне канцавога *з* у прыназоўніках не абазначаецца мяккім знакам. Практычна так паступаў і Б. Тарашкевіч, але ў правіле пра гэта не ўпамянуў.

Але цалкам выканаць падобнае правіла немагчыма, бо ў радзе выпадкаў гэта пярэчыла б моўнай інтуіцыі, якую можна абгрунтаваць і навукова. Возьмем найбольш простую частку: перад мяккімі *г, к, х* зычныя *з, с, дз, ц* не змякчаюцца, і пасля іх мяккі знак не пішацца (у прапанове: «акрамя *г, к, х»)*, г. зн. трэба пісаць *згінуць, скінуць, схіліць* і г.д. не толькі тым, хто тут вымаўляе цвёрдыя *з, с*, але і тым, хто вымаўляе мяккія, а такіх добрая трэць Беларусі. Гукі *дз, ц* на пачатку слова перад *г, к, х* не сустракаюцца. Затое ў сярэдзіне слоў яны тут ёсць: *З'есці рэдзькі, быў у дзядзькі.* Згодна з гэтай фармулёўкай трэба пісаць *зьесьці* **рэдзкі,** *быў у* **дзядзкі(!)**, бо рэкамендуецца памякчэнне перад мяккімі *г, к, х* не абазначаць. Аўтарам рэкамендацыі трэба было б зрабіць выключэнне.

Але чаму тут немагчымы напісанні без мяккага знака? Уся справа ў тым, што гукі ў мове выконваюць дзве асноўныя функцыі: яны дапамагаюць адрозніваць і адначасова атаясамліваць словы. У гэтым выпадку *с* і *сь, ц* і *ць* (толькі гэтыя гукі і толькі перад *к)* адрозніваюць словы, напрыклад: *коска (маленькая каса)* і *коська (ласкавая назва каня).* Функцыю адрознення яны захоўваюць і тады, калі *к* становіцца мяккім: усе беларусы лічаць рознымі словы *коскі* і *коські, дзядкі* і *дзядзькі.* Іншых такіх пар слоў у беларускай мове няма. Аднак функцыя атаясамлівання слоў, якая дапамагае слухачу пазнаваць іх, прымушае захоўваць мяккасць толькі ў тых выпадках, дзе яна выконвае або патэнцыяльна можа выконваць функцыю адрознення. Вось чаму ўсе носьбіты беларускай мовы вымаўляюць, як і пішуць: *у* **Зоські,** *у* **Ваські,** *у* **дзядзькі,** *у татуські, цюцькі, авоські,* але *расказвае* **казкі** (у вымаўленні можа быць *каскі* і *казкі), коскі* (знак прыпынку), *этрускі, малюскі, пырскі, цацкі* і г.д.

Калі ж узяць тыя выпадкі, якія мелі на ўвазе аўтары рэкамендацый і Б. Тарашкевіч (*скінуць, схіліць, згінуць)*, то тут *с* і *сь, з* і *зь* не могуць выконваць адрознівальнай ролі, бо *скінуць* і *ськінуць, схіліць* і *сьхіліць, згінуць* і *зьгінуць* — успрымаюцца як вымаўленчыя варыянты адных і тых жа слоў. Паколькі функцыя атаясамлівання застаецца, магчымы выбар для носьбітаў мовы вымаўляць *скінуць* або *ськінуць, схіліць* або *сьхіліць, згінуць* або *зьгінуць*. Па гаворках абодва варыянты вымаўлення і назіраюцца. У сувязі з тым, што наша моўная эліта ў асноўным вясковага паходжання, гэтыя варыянты пранікаюць і ў літаратурнае вымаўленне, нягледзячы на тое, што пісьмо перадае толькі цвёрды варыянт. Адзін паэт, напрыклад, так чытаў свой верш: *уськінь насустрач гэтай песьні голаў, уськінь насустрач сонцу промні рук.*

У многім падобная карціна памякчэння зычных назіраецца і перад мяккімі губнымі *б, п, м, в.* На пачатку слоў у літаратурным вымаўленні *з, с* перад імі ва ўсякім разе павінны змякчацца рэгулярна: *збег* |*зьбех*|, *спеў* |*сьпеў*|, *смех* |*сьмех*|, *свет* |*сьвет*|. Цвёрдае вымаўленне *с, з* тут магчыма таму, што ў гэтай пазіцыі цвёрдыя і мяккія зычныя не могуць адрозніваць словы. Інакш кажучы, вымаўленне згодна з цяперашнім напісаннем *збег, спеў, смех, свет* сустракаецца таму, што моўная сістэма не забараняе яго.

Калі ўлічыць, што цвёрдае вымаўленне *с, з* існуе не толькі як адхіленне ад літаратурнай нормы, але і ў шмат якіх дыялектах паўднёвай часткі Беларусі, то вінаваціць ва ўсім арфаграфію было б няправільна.

У гэту схему не ўпісваюцца *дз, ц* перад мяккім *м: дзьме, цьмяны.* Тут мяккасць захоўваецца ў вымаўленні большасці носьбітаў мовы (аднак вядома і дыялектная форма *дмуць)*, бо ў іншых формах гэтых слоў яна выступае ў становішчы і перад цвёрдымі зычнымі: *дзьму, цьма.* У сувязі з гэтым функцыя атаясамлівання не дае выбару паміж цвёрдымі і мяккімі гукамі, а прымушае вымаўляць *дз, ц* толькі мякка: *дзьме, цьмяны.* Сістэма аддае перавагу і мяккаму варыянту *ц* перад мяккім *в* незалежна ад яго паходжання з *т* або *ц: цвёрды* |*цьвёрды*|, *цвярозы* |*цьвярозы*|, *цвіценне* [*цьвіценьне*], *цвік* [*цьвік*], *цвінтар* |*цьвінтар*|. Але побач з запазычаннямі з англійскай мовы *цвін (twine), цвінавы, цвіндэк (tweendeck)* узнікае запазычанне з гэтай жа мовы *твіст*, што, безумоўна, не ўмацоўвае мяккасць *ц* і ў гэтай пазіцыі. Таму ў вусным маўленні пярэдка сустракаецца [*здрантвеньне*] замест [*здранцьвеньне*], накрыклад, у У. Караткевіча.

Цяпер, калі з гэтай пазіцыі паглядзець на цвёрдасць — мяккасць названых гукаў перад мяккімі губнымі (фактычна толькі перад *м)* не ў пачатку слоў, то тут сітуацыя амаль ідэнтычная той, якая назіраецца перад заднеязычнымі *г, к, х.* Адрозненне хіба толькі ў тым, што няма ні адной пары слоў, якія б адрозніваліся толькі цвёрдымі і мяккімі *с, з, ц, дз.* Але выразна адрозніваюцца часткі слоў у першую чаргу перад цвёрдымі губнымі: *выдма — ведзьма, процьма — астма, пасма — тасьма, прызба — грозьба.* Названыя парныя цвёрдыя — мяккія гукі захоўваюць уласцівасць адрозніваць формы слоў і тады, калі *м* становіцца мяккім, параўн.: *выдме,* але *ведзьме; процьме,* але *астме; пасме,* але *тасьме; прызбе,* але *грозьбе.* Цікава заўважыць, што ў граматыцы Б. Тарашкевіча знаходзім напісанні *прысьбе, прызьбе* ў той час, як зараз вымаўленне з цвёрдым *з* яўна пераважае. Яно стала нормай перад мяккім *в* у формах тыпу *назве, адозве, асве́, мардве, Літве, братве, клятве, дратве, дзятве, глупстве, старостве* і г.д., а таксама перад *м: прызме, басме, спазме, плазме, феадалізме, труізме, лунацізме* і г.д.

Усе гэтыя рэальныя моўныя факты рэкамендацыі не ўлічваюць. Агульная фармуліроўка, што мяккасць абазначаецца ў межах слова, не ўлічвае нават таго простага факта, што *д* прыставачнае не змякчаецца *(адвесці,* параўн. *дзверы)*, акрамя выпадку падваення *(адзьдзел);* не памякчаецца гэты гук і перад ётавымі галоснымі: *ад'езд, пад'есці, ад'ютант,* але параўн. напісанні іншамоўных імён і прозвішчаў: *Дзьюі, Дзьердзь, Дэладзье* і г.д. У радзе выпадкаў нельга адназначна вызначыць, як вымаўляць *з* на стыку прыстаўкі і кораня, параўн.: *паўзверх* і *паўзбіваць, паўзлесны* і *паўзмены* і да т.п. Няўжо тут аднолькава трэба вымаўляць [*паўзьверх*] і [*паўзьбіваць*]? Спрэчным з'яўляецца пытанне пра вымаўленне *сь* перад мяккім *ф (сьфера* ці *сфера, сьфінкс* ці *сфінкс)* хаця б таму, што гэтыя словы і зараз успрымаюцца як яўныя кніжныя запазычанні.

Што датычыць асіміляцыйнай мяккасці перад іншымі мяккімі зычнымі (*ць, дзь, сь, зь, нь, ль)*, то яна значна больш устойлівая ў межах слова і фактычна выключэнняў не ведае. У прыватнасці, дзякуючы таму, што ў канцавых спалучэннях у выніку спрашчэння спалучэнняў зычных яна часта набывае самастойны характар, асабліва ў мясцовых гаворках, параўн.: літаратурнае [*радасьць*] і дыялектнае [*радась*], а таксама літаратурнае *боязь* з [*боязьнь*]. Дзякуючы гэтаму больш устойліва захоўваецца мяккасць і ў іншых пазіцыях: [*сьцяна*], [*лазьня*].

Хацелася б пачуць думку і правапіснай камісіі ТБМ, і іншых членаў Таварыства, якім чынам можна сфармуляваць правіла, якое б дазволіла найбольш простым спосабам перадаваць мяккасць *дз, ц, с, з* перад мяккімі зычнымі ў межах слова як тымі, у каго гэта мяккасць ёсць у вымаўленні, так і тымі, у каго яе няма.

## Немцы ў Віцебску

**Ды не госці, што цяпер, дзякаваць Богу, не дзіва, а свае. Як паведаміла газета дэмакратычных плыняў Прыдзвінска-Прыдняпроўскага краю, яны нават аб'ядналіся ў нацыянальную суполку і афіцыйна зарэгістравалі Віцебскі саюз немцаў. Гэтая добраахвотная арганізацыя мае намер усур'ёз заняцца адраджэннем нацыянальнай моўнай і культурнай самабытнасці немцаў. Як паведаміў карэспандэнту «Выбару» каардынатар нямецкай арганізацыі Віктар Вільман, з міжнародных планаў асноўнае — ажыццяўленне пасрэдніцкіх функцый у развіцці і замацаванні беларуска-германскіх узаемаадносін і супрацоўніцтва між двума народамі ў эканамічнай, навукова-тэхнічнай, экалагічнай і гуманітарнай галінах.**

# КРУЦІЦЦА

кую мову як рабочую пры правядзенні сходаў, нарад, пасяджэнняў. А якая будзе шкода, калі і справаводства паступова пачалося б весціся на дзяржаўнай мове? Згодна з артыкулам № 8 Закона на яго ўкараненне адведзена 5 гадоў. Тры ўжо прайшло. Што зроблена? Пячаткі, бланкі ды фармуляры! І зноў спасылка на нейкую неабходнасць. А хто дакажа, растлумачыць гэту неабходнасць? Уласнай непадрыхтаванасцю? Каб гэта было ў час камуністычнага панавання, хутка б стварылі адпаведныя «лікбезы», увялі б спецпраграмы ў школах эканамічнай адукацыі працоўных, марксізму-ленінізму, камуністычнай працы. І на затраты б не спасылаліся.

У працаўнікаў беларускай мовы ёсць і яшчэ адзін аргумент. Яго, дарэчы, таксама нагадаў аўтар «думкі»: беднасць мовы. Маўляў, некаторых тэхнічных тэрмінаў нават зусім няма. А што, у рускай мове хапае? Прааналізуйце ўсе тэхніцызмы, і вы заўважыце — усе яны няроскага паходжання. Гэта даказвае, па-першае, што тэхнічны прагрэс рухаўся не з Усходу. Нездарма жартуюць — з Усходу толькі мацяршчына. Па-другое, можна выкарыстоўваць у такіх выпадках запазычаныя словы з іншых моў. Але не калькаваць іх з рускай, як гэта робіцца са словамі: план, платформа, газета і інш. У беларускай мове слоўны багаж не меншы, чым у рускай. Адваротнае можа сцвярджаць толькі той, хто яе дрэнна ведае. Дастаткова нагадаць. У Пушкіна набор слоў у творах складае 26 тысяч, у Якуба Коласа — 54.

Хто не за адраджэнне, той будзе знаходзіць усялякія зачэпкі (што і спрабуе зрабіць аўтар згаданага артыкула), абы не спяшацца, адцягнуць выкананне Закона аб мовах. А там, бач, калі не вырашаць пытанне «свае» дэпутаты, дык тэрмін дзеяння Закона пройдзе, і ўсё застанецца па-ранейшаму. Адказнасці ж за гэта аніякай.

Ад імя Таварыства беларускай мовы Заводскага раёна, усіх свядомых аўтазаводцаў, выбаршчыкаў афіцыйна звяртаюся да намесніка генеральнага дырэктара нашага аб'яднання, дэпутата Вярхоўнага Савета Яўгена Селівончыка: калі раптам на сесіі ўзнікне пытанне аб двухмоўі, праявіце грамадзянскую свядомасць і інтэлектуальнасць, не ўключайцеся ў самагубства нашай нацыі. Гэтым самым Вы ўнесяце свой пачэсны ўклад у спыненне калісь запушчанага махавіка. Не станьце яго памагатым.

**Мікалай ЛАВІЦКІ,**
**старшыня рады Таварыства беларускай мовы Заводскага раёна.**

г. Менск.




### ЗНОЎ «БУЛЬДОЗЕРНАЯ ВЫСТАВА»?

19 чэрвеня Гомельская суполка вольных мастакоў ладзіла вулічную выставу. Тэму выставы акрэсліць адным-двума словамі цяжка, але вядома, што яе правядзенне ўладамі не было санкцыянавана...

Паўлюк ЛОСЬ.

### «РАДЫЁ З-НАД ВІЛІІ» ПА-БЕЛАРУСКУ

З 1 ліпеня на ультракароткіх хвалях польскага «Радыё з-над Віліі» з'явіцца паўгадзінная перадача для беларусаў. Адзначым, што па якасці музычных перадач яно займае адно з першых месц у Летуве.

Наталля САВІЦКАЯ.

### ДЗЕНЬ МОЛАДЗІ

27 чэрвеня ў Гомелі адбылася ўрачыстасць — Дзень моладзі. У Цэнтральным гарадскім парку імя Луначарскага гэта свята праводзілася ўжо не ўпершыню.

### «РАТОН» ШУКАЕ ПАПАРАЦЬ-КВЕТКУ

Гомельская выбранецкая брыгада «Талака» збіраецца адсвяткаваць Купалле ў аздараўленчым лагеры мясцовага навукова-вытворчага аб'яднання «Ратон».

### НЯМА СКЛАДУ ЗЛАЧЫНСТВА?

**У Гомелі** пачалі з'яўляцца плакаты і лісткі з ганьбаваннем нашай дзяржаўнай сімволікі. Пракуратура гэтай справай не займаецца. Няўжо яна не знаходзіць складу злачынства?

Старыя беларускія гімназіі

*Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі Янка БРЫЛЬ*

# КУЗНЯ АСВЕТНІКАЎ



Дзвінская дзяржаўная беларуская гімназія была сярэдняй гуманітарнай установай для падрыхтоўкі кадраў культурна-нацыянальнага адраджэння беларускай меншасці ў Латвіі. Афіцыйна адкрыта ў Даўгаўпілсе (да 1920 г. — Дзвінск) у 1922 годзе намаганнямі беларускага культурна-асветнага таварыства «Бацькаўшчына». Беларускі аддзел пры Міністэрстве асветы Латвіі атрымаў дазвол на арганізацыю гімназіі 1 красавіка 1922 года. Дырэктарамі навучальнай установы былі Іван Ігнатавіч Краскоўскі (1922—1925 гг.), Сяргей Пятровіч Сахараў (1925—1932 гг.). Штогод гімназію на вул. Варшаўскай, 16 заканчвала 15—16 выпускнікоў. Яны вывучалі беларускую, латышскую, расійскую, лацінскую, нямецкую мовы, гісторыю, матэматыку, рэлігію і інш., удзельнічалі ў вучнёўскім хоры, балалаечным аркестры, літаратурна-гістарычным, мастацкім, фатаграфічным, радыётэхнічным гуртках, выдавалі друкаваны на гектографе часопіс «Школьная праца» (з 1926 па 1930 г. выйшла 14 нумароў). Пры гімназіі існаваў 45-ы беларускі скаўцкі атрад.

Сярод выкладчыкаў гімназіі былі Уладзімір Васілевіч Пігулеўскі, Паўліна Вікенцьеўна Мядзёлка-Грыб, Андрэй Паўлавіч Якубецкі, ксёндз Язэп Гайлевіч. На



арганізаваных Эдвардам Будзькам настаўніцкіх курсах (у 1923 г. яны былі пераведзены ў Рыгу) з лекцыямі выступалі Максім Гарэцкі, Ігнат Дварчанін, Антон Луцкевіч. 9 і 10 красавіка 1927 года з лекцыямі па гісторыі беларускай літаратуры выступаў у гімназіі Вацлаў Ластоўскі. Цесную сувязь з гімназіяй падтрымлівалі Яніс Райніс, Вацлаў Брэжга, Канстанцін Езавітаў.

У гімназіі была добра наладжана пазашкольная культурная праца, збор фальклору, выязныя лекцыі, канцэрты, спектаклі паводле п'ес Янкі Купалы, Ф. Аляхновіча, К. Каганца, Д. Дуніна-Марцінкевіча, Вольгі Сахаравай. Праведзены ўрачыстыя акты з нагоды 400-годдзя беларускага друку і першадрукара Ф. Скарыны, 25-годдзя з дня смерці Ф. Багушэвіча, 20-годдзя літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Многія навучэнцы гімназіі прысвяцілі сваё жыццё служэнню беларускай, латышскай, расійскай, польскай, чэшскай і славацкай культурам: паэты Аўген Бартуль, Пятро Сакол (П. А. Масальскі), Валянціна Казлоўская, Мікола Талерка, Эдуард Вайвадзіш, празаік Віктар Вальтар, перакладчык Янка Доўгі; мастакі Пятро Міранovіч, Міхась Калінін, оперная спявачка Надзея Мікалаева-Комісар, рэжысёр Язэп Францавіч Камаржынскі, археолаг Людміла Краскоўская. Многія з іх пазней апынуліся ў эміграцыі.

З верасня 1932 года пачалася паступовая ліквідацыя гімназіі (зачынены I клас, звольнены С. П. Сахараў). У 1938 годзе «кузня. дзе выхоўваліся шчырыя і моцныя сыны свайго народа і прыхільнікі Латвійскай Дзяржавы» (С. П. Сахараў) перастала існаваць.

◆◆◆




**НА ЗДЫМКАХ:** *І. І. Краскоўскі і П. В. Мядзёлка-Грыб з настаўнікамі і вучнямі гімназіі; дырэктар гімназіі С. П. Сахараў з выкладчыкамі М. Калініным і І. Комісарам у майстэрні гімназіі; «Беларускі аддзел» гарадской выстаўкі, падрыхтаваны навучэнцамі гімназіі.*

# Так, след не згубіўся

*(Вяртанне Эдварда Будзькі)*

**По публікацыях у «Нашым слове», «ЛіМе», у іншых светланосных выданнях чытачы маглі адчуць, як нашыя суайчыннікі за мяжой балюча рэагуюць на любую недакладнасць ці самую маленькую фальшывую нотку ў надрукаваным на Бацькаўшчыне слове. Мяне таксама не мінула не ад мяне залежная памылка.**

**Справа ў тым, што 17 красавіка 1992 г. у «ЛіМе» была надрукавана нататка «След не згубіўся» — пра 110-годдзе з дня нараджэння паэта, выдаўца і педагога Эдварда Будзькі. Каб згадаць гэтае незаслужана забытае імя, звесткі шукаў у латвійскіх беларускіх выданнях (К. Езавітаў, «Беларускае культурна-асьветнае Т-ства «Бацькаўшчына» ў Латвіі», Рыга, 1932 г.), пазнаёміўся і з артыкулам Генадзя Каханоўскага ў «ЭЛіМБеле» (т. 1, стар. 506).**

**Неўзабаве я атрымаў ліст з Чыкага ад вядомага беларускага грамадскага дзеяча Вітаўта Рамука, дзе між іншым было напісана: «Хачу звярнуць увагу, што вестка: «Потым выехаў у Канаду. Памёр там 14 жніўня 1958 года» — нязгодна з праўдай. Светлай памяці Эдвард Будзька выехаў у Амерыку і памёр у Чыкага. Мы былі на ягоных паховінах. Між іншага, у Чыкага жывуць дзве ягоныя дачкі.**

**У энцыклапедыі ёсць зацемка пра Эдварда Будзьку — і зноў нязгодны з праўдай наступны сказ: «Цяжка хворы выехаў з бурж. Польшчы ў Канаду». Ані ён быў хворы, ані з бурж. Польшчы ў Канаду. Скажыце, калі ласка, выдаўцам энцыклапедыі аб гэтым».**

**Магу суцешыцца тым, што новае энцыклапедычнае выданне — «Беларускія пісьменнікі» (т. 1, 1992 г., с. 375) выправіла вымушаную «эзопаўскую» памылку Г. Каханоўскага. Названа і месца апошняга супачыну Эдварда Адамавіча — могілкі святога Войцеха ў Чыкага.**

**І яшчэ адна вынятка з ліста В. Рамука: «Дасылаю Вам копію некралога, памешчанага ў газ. «Бацькаўшчына» (№ 44, 1958 г.), падпісанага Прысутным. Гэта псеўданім (крыптанім) св. пам. праф. Вінцука Жука-Грышкевіча, настаўніка Віленскай беларускай гімназіі, родам з Будслава, каторы добра знаў Эдварда Будзьку».**

**С. ПАПАР.**

*Замежжа*

# Беларускія прадпрымальнікі ў Латвіі

«Белорусская деловая газета» падрыхтавала спецыяльны выпуск «Беларускі шлях», які знаёміць чытачоў з Асацыяцыяй прадпрымальнікаў-беларусаў, якія жывуць у Латвіі.

Большасць матэрыялаў, змешчаных на дзвюх газетных старонках, мае рэкламна-інфармацыйны характар. Акрамя гэтага, пададзена канцэпцыя стварэння і развіцця акцыянернага таварыства «Гандлёвы дом «Беларусь» у Латвіі. Галоўная мэта згаданай прадпрымальніцкай структуры — аб'яднанне беларусаў Латвіі. Адзначым, што на ўвазе маецца не толькі камерцыйная і прадпрымальніцкая дзейнасць. «Гандлёвы дом» плануе таксама ствараць у Латвіі школы, іншыя навучальныя ўстановы, дзе ўсе прадметы будуць выкладацца па-беларуску.

Вядомы мастак і калекцыянер В. Целеш змяшчае ў выпуску артыкул «Запрашае беларуская школа». Чытачы даведаюцца, што культурнае таварыства беларусаў Латвіі «Сьвітанак» пры падтрымцы Міністэрства асветы . гэтай дзяржавы ўжо 1 верасня запланавала адкрыць першы клас беларускай нацыянальнай школы. Але беларускамоўных настаўнікаў у Латвіі практычна няма. Таму нашы латвійскія землякі запрашаюць на працу педагога пачатковых класаў (з беларускай мовай навучання). Звяртацца на адрас: г. Рыга, вул. Вісвалжу, 9, 15-я сярэдняя школа.

У спецвыпуску расказваецца таксама пра сустрэчу дзвюх галін беларускай дыяспары ў Латвіі — рыжскай (аб'яднанне «Прамень») і латгальскай (аб'яднанне «Уздым»).

Шкада толькі, што большасць матэрыялаў «Беларускага шляху» (камерцыйная інфармацыя) надрукавана па-руску. А ці ж не роднае слова павінна найперш яднаць беларусаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны!

**А. К.**

# «ПОЛАЦАК»

Чарговы, чацвёрты, нумар часопіса «Полацак» адкрываецца артыкулам Васіля Пуцко «Жыровіцкая ікона Божае Маці». Працягваецца публікацыя «Тапаграфіі знаходак манет і аздобаў», знойдзеных у Менскай вобласці, якую падрыхтаваў Міхась Белямук. Чытачоў чакае заканчэнне даследавання Паўла Урбана «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвінаў». У рубрыцы «Пад бел-чырвона-белым сцягам» Міхась Белямук распавядае пра адкрыццё беларускага пасольства ў ЗША, а таксама падае запіс першай нефармальнай «прэс-канферэнцыі» Беларускага Дома Амерыкі.

«З генералам Булак-Балаховічам я пазнаёміўся ў лістападзе 1919 года, калі па даручэнню тагачаснага ўрада БНР запрасіў яго на беларускую службу» — так пачынаецца новая частка «Уласнаручных паказанняў Езавітава Канстанціна Барысавіча». Леў Мірачыцкі прапануе чытачам артыкул «Жыццё для Айчыны» пра эмігранцкі лёс Ларысы Геніюш. У рубрыцы «Лісты з бацькаўшчыны» змешчаны допіс чытачкі з Беларусі да Масея Сяднёва, які пазначаны загалоўкам «Мы яшчэ сустрэнемся...». «Я быў сярод свайго народа» — так называюцца нататкі Язэпа Сажыча, якія напісаны ім пасля наведвання Беларусі ў час святкавання 75 угодак БНР. Сёлета споўнілася 7 гадоў з дня катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. З гэтай нагоды Святлана Белая дзеліцца сваімі разважаннямі «Куды вядзе гэты шлях?», што друкуюцца ў раздзеле «Чарнобыльскі шлях». З літаратурных твораў чытачы могуць пазнаёміцца з дзевятай быліцай Міхася Кавыля «І з агню ды ў полымя», вершамі Ларысы Геніюш і Васіля Супруна, што былі напісаны ў бальшавіцкай ссылцы. Аматарам песеннага жанру прапануецца песня Пятра Нядзьвецкага «Сумна», якая была напісана ў 1940 годзе ў Будславе. На апошняй старонцы часопіса змешчана «Хроніка нашага жыцця».

# «Часопіс»

У «Часопісе» за травень сярод беларускамоўных матэрыялаў вылучаецца артыкул Юрыя Каліны «Усё дзеля еднасці», тэму якога перадаюць наступныя радкі: «...дрэнна сталася, што вельмі станоўчая з'ява, якую без вялікага перабольшвання можна назваць беларускім адраджэннем у 80-х гадах на Беласточчыне, давяла таксама да падзелаў ды сварак у беларускім асяроддзі...» Аб росквіце і падзенні немалой (у некалькі тысяч чалавек), працавітай, дружалюбнай і добра арганізаванай беларускай грамады ў Аргенціне распавядае Алег Латышонак у нататках «Лісце, несенае ветрам». Антон Мірановіч прапануе артыкул «Дар каралевы Ялены Бельскай царкве», з якога можна даведацца пра гісторыю іконы Божай Маці з дзіцём, што знаходзіцца ў царкве Раждждаства Прачыстай Дзевы Марыі ў Бельску-Падляшскім. «Часопіс» добра ілюстраваны здымкамі з культурнага жыцця Беларусі і Беласточчыны.

**В. А.**

# Вучымся!

## УРОК ДВАЦЦАЦЬ ЧАЦВЕРТЫ

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце выразна скорагаворкі, прагаварыце хутка.

Пайшоў шпак на шпацыроўку,
Знайшоў хустку-кашміроўку.
А шпачыха завязала
І нічога не сказала.

*В. Вітка.*

Ішла скорагаворка са скорагаварчанятамі.

*Р. Барадулін.*

2. Прачытайце словы, захоўваючы правілы вымаўлення выдзеленых зычных і іх спалучэнняў:

| | |
|---|---|
| рабіць — робячы | спадабае**шся** |
| хадзіць — ходзячы | нагледзі**шся** |
| бегчы — бегучы | падлечы**шся** |
| бачыць — бачачы | усміхае**шся** |
| сядзець — седзячы | пакрыўдзі**шся** |

3. Прачытайце верш Петруся Броўкі, правільна вымаўляючы галосныя, зычныя і іх спалучэнні.

### Будзь верны

Увесь, як ёсць, да кроплі сілы
Бацькам, цябе што нарадзілі,
Будзь верны!

У дзень пагодны і ў навалу
Зямлі, цябе што ўзгадавала,
Будзь верны!..

Палям, узгоркам і лагчынам,
Шляхам, дарожкам і сцяжынам
Будзь верны!

Барам, галля зялёным хвалям,
Табе прытулак што давалі,
Будзь верны!

Азёрам, рэчкам-чараўніцам
І той, з якое п'еш, крыніцы
Будзь верны!

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце прыказкі і прымаўкі. Назавіце дзеясловы загаднага ладу і скажыце, што яны выражаюць. Што абазначаюць дзеясловы ўмоўнага ладу?

Век жыві, век вучыся. Зрабіце запас, то будзе і ў вас. Едзеш на дзень, а бяры хлеба на тыдзень. Быў бы сад, а салаўі прыляцяць. Ці грай, ці грошы аддай. Шукай сабе сябра ў бядзе. І службу служы, і сябру памажы. Няхай і ў нашай хаце будзе свята. Чый хлеб ясі, таму і песні спявай. Любіш гасцяваць, любі і прымаць. Сядзеў бы ціха, каб не парола ліха. Купіў бы сяло, ды грошай гало. Не хапайся з козамі на торг: і коз прадасі, і грошы праясі. Збірай, збірай грошы, чорт на іх дзірку знойдзе. Госць першы дзень — золата, другі дзень — серабро, а на трэці — медзь і дадому едзь. Не бойся госця сядзячага, а бойся стаячага.

2. Карыстаючыся дзеясловамі загаднага ладу, падайце каманды:

а) завесці матор,
заглушыць аўтамабіль (танк),
зняць (надзець) галаўны ўбор,
змяніць даўжыню рамня зброі,
спыніцца,
змяніць дыстанцыю;
б) для пастраення,
для раўнення,
для выхаду са строю,
для падрыхтоўкі акопа.

3. Спішыце тэкст паводле І. Мележа, падкрэсліце вядомыя вам арфаграмы, растлумачце іх.

Мост быў разбураны. Танкі лёгка пераходзілі рэчку, але з натугай раўлі, калі пераадольвалі вязкі грунт берага. Гусеніцы раскапалі на берагах такія канавы, што гразь узнімалася на вышыню кліранса. Аляксей паспрабаваў перапраўляцца далей ад дарогі, але машына чуць не засела, і давялося вяртацца на ранейшае месца.

— Наслаць бярвенні! — загадаў старшы лейтэнант. На кожнай машыне былі бярвенні, падрыхтаваныя яшчэ да пачатку пераправы.

Па бярвеннях, як па шпалах, пачалі перапраўляцца «трыццацьчацьвёркі».

## Тлумачэнне новай тэмы: Утварэнне і ўжыванне дзеепрыметнікаў

Дзеепрыметнік — форма дзеяслова, якая абазначае прыкмету прадмета паводле дзеяння, адказвае на пытанні **які? якая? якое? якія?** (*спісаны* сшытак, *зжатая* збажына, *ачышчанае* насенне, *засеяныя* палі). Дзеепрыметнікі ўтвараюцца ад асноў дзеясловаў пры дапамозе наступных суфіксаў:

**-л-**: спе-**л**-ыя суніцы, замшэ-**л**-ыя пні;
**-уш-**, **-ш-**: прыеха-**ўш**-ыя салдаты, нёс-**ш**-ыя зброю;
**-уч-**, **-юч-**: піш-**уч**-ы апарат, руха-**юч**-ая сіла;
**-ач-**, **-яч-**: дрыж-**ач**-ыя галінкі, адыходз-**яч**-ыя танкі;
**-н-**: надпіса-**н**-ы дакумент, засея-**н**-ы палетак;
**-ен-**, **-ан-**: запавол-**ен**-ы крок, вывуч-**ан**-ы тэкст;
**-т-**: зні-**т**-ы бензін, пашы-**т**-ы касцюм;
**-ем-**: разгляда-**ем**-ы чарцёж.

У беларускай мове шырока выкарыстоўваюцца дзеепрыметнікі з суфіксамі **-н-**, **-ен-**, **-ан-**, **-т-**: *адрамантаваная* машына, *сагрэты* сонцам, *разгорнутая* кніга. Ужыванне дзеепрыметнікаў з суфіксамі **-уч-**, **-юч-**, **-ач-**, **-яч-**, **-ем-**, **-ім-** абмежавана.

Пры перакладзе дзеепрыметнікаў і дзеепрыметных словазлучэнняў з рускай мовы на беларускую могуць ужывацца:

— **даданыя сказы:** Он любовался растущими на опушке берёзами.— *Ён любаваўся бярозамі, што растуць на ўзлеску;*

— дзеепрыметнікі з суфіксамі **-н-**, **-ен-**, **-ан-**, **-т-**: потушенные огни — *патушаныя агні;*

— дзеепрыметнікі з суфіксам **-л-**: посветлевшее небо — *пасвятлелае неба;* пожелтевшая трава — *пажаўцелая трава;*

— **дзеясловы:** Наливалась поспевающая в поле рожь.— *Налівалася і паспявала ў полі жыта;*

— **дзеепрыслоўі:** Останавливался шагающий сбоку командир.— *Спыняўся, крочачы збоку, камандзір;*

— **назоўнікі:** пашущий крестьянин — *араты;* будущая жизнь — *будучыня;*

— **прыметнікі:** говорить плачущим голосом — *гаварыць плаксівым голасам.*

Дзеепрыметнікі, якія не нясуць пэўнай сэнсавай нагрузкі, у перакладах апускаюцца: Дети спрятались за двумя растущими кустами.— *Дзеці схаваліся за двума кустамі.*

### ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ

Дзеепрыслоўе — гэта нязменная форма дзеяслова, якая абазначае дадатковае дзеянне: *Яны ціха ішлі па лесе, пільна* ***прыглядаючыся*** *навокал.*

Дзеепрыслоўі ўтвараюцца ад асноў дзеясловаў пры дапамозе наступных суфіксаў:

**-учы, -ючы**: *будуюць — будуючы, кажуць — кажучы;*
**-ачы, -ячы**: *сочаць — сочачы, просяць—просячы;*
**-ушы, -шы**: *прачытаць — прачытаўшы, завезці — завёзшы.*

### ЗАМАЦАВАННЕ

1. Прачытайце тэксты паводле В. Быкава, вызначце граматычныя формы дзеясловаў і растлумачце іх правапіс.

*Варыянт I*

Папоў надзявае гімнасцёрку і сціпла любуецца. Уся вопратка на ім прыгледжаная, падагнаная, акуратная, гузікі на месцы, над правым кішэньчыкам тры вузенькія палоскі — нашыўкі за раненне. Гэтыя нашыўкі мала хто носіць у нас, хоць і многія былі паранены, але ў Папова яны на месцы. Якраз над імі эмалевая зорка ордэна. На адным зубчыку эмаль выкрышылася, але ордэн роўненька прыкручаны. Наводчык наш выглядае акурацістам, спраўным салдатам, адразу відаць схільнасць да вайсковае службы, толькі вось званне малое — яфрэйтар. Ну, а калі б ён быў сяржантам, дык, думаецца, яго падначаленым жылося б не дужа салодка — характар у Папова ціхі, але ўпарты і ўедлівы, асабліва ў дробязях.

*Варыянт II*

Ніколі мне не счарсцвець да яе ўсмешкі, да яе голасу, яе манеры трымаць сябе,— да ўсяго яе такога ветлага, сяброўскага аблічча. Мне б вельмі хацелася з'явіцца перад ёй з баявой узнагародай, з лычкам на пагонах, з чым-небудзь, што б зрабіла мяне большым, смялейшым, дужэйшым і больш вартым у яе вачах. Гэта цяжка, але я гатовы на новыя пакуты ў баях. А што яна вельмі ўжо незвычайная, лепшая за ўсіх на свеце дзяўчат, у тое я веру ўсёй сваёй недарэчнай, маладою душой. Не, відаць, жывучы з ёю на адным свеце, я не магу быць абыякавым да яе.

2. Прачытайце тэкст паводле І. Мележа, выпішыце дзеепрыметнікі і пазначце суфіксы, пры дапамозе якіх яны ўтварыліся ад дзеясловаў.

Магістраль бегла проста на захад. Бегла то праз дружныя, цёмныя сасоннікі, то праз беластвольныя бярэзнічкі, то праз густыя гаі. Бегла паўз шырокія працягі яшчэ неўчарнелых пнёў, што аддзялялі шашу ад лясоў.

Бегла цераз балоты, што паблісквалі аерам, цераз палі, на якіх часта азёрамі разлівалася свірэпа. Праз вёскі, спаленыя, зруйнаваныя ці затоеныя ў трывозе за жыццё. Праз масты, акружаныя дзотамі і дотамі, аплеценыя калючым дротам. Бегла туды, дзе чакаў спакутаваны Мінск.

Яна была як паказчык напрамку. Яна была — як лязо. Лязо вялікага мяча, нацэленага ў сэрцы ненавісных гітлераўцаў.

3. Ад дзеясловаў утварыце дзеепрыметнікі і разам з назоўнікамі, змешчанымі ў дужках, утварыце словазлучэнні паводле ўзору: прачытайце (газета) — прачытаная газета.

Прынесці (вада), сказаць (фраза), прывезці (амуніцыя), змалоць (зерне), збудаваць (дом), адрамантаваць (памяшканне), забрукаваць (дарога), вымыць (падлога), надрукаваць (кніга), перакласці (тэкст), скласці (план), дагледзець (сад).

4. Назавіце дзеясловы, ад якіх утвораны дадзеныя дзеепрыслоўі:

а) мінаючы, стоячы, смеючыся, трымаючы, спадзеючыся, беручы, страляючы, ведучы, ідучы, кіруючы, сплючы, шануючы;

б) праляжаўшы, нагаварыўшыся, збудаваўшы, азірнуўшыся, даўшы, вёзшы, адшукаўшы, памыўшыся, угледзеўшы, палічыўшы, здаволіўшыся, пад'еўшы.

5. Прачытайце тэкст паводле І. Мележа. Ад дзеясловаў, дадзеных у дужках, утварыце дзеепрыслоўі.

Шабуня камандаваў:

— Бранябойшчыкі-і-і... па танках! Падрыхтаваць гранаты!..

Спераду адной машыны блiснуў агеньчык, і на ўзлессі нізка, са свістам (ірваць) паветра, шугануў снарад.

Туравец, (схапіць) дзве гранаты, што ляжалі ў ямцы між карнявішча, крыкнуў на хаду Шабуні: «Я ў першы ўзвод!» Ён, (нагінаецца), хутка пабег між дрэваў. Чуў, як над галавой шуганула яшчэ некалькі снарадаў, але Туравец не кінуўся на зямлю. Ужо калі ўпаў, пачуў поруч стрэл бранябойкі. Бранябойшчык, з мокрымі ад поту скронямі, дрыготкімі рукамі зарадзіў ружжо зноў і нібы прырос да яго, не (зводзіць) вачэй з цэлі, не (заўважаць) нічога іншага.

6. Пабудуйце апавяданне па пачатку, выкарыстаўшы розныя граматычныя формы дзеяслова. Дайце загаловак.

Па вуліцы ішло ды ішло войска. Грукаталі цягачы з важкімі гарматамі і прычэпамі, дымілі на хаду палявыя кухні. Нецярпліва сігналілі легкавікі, патрабуючы сабе дарогу.

На гарматах, на прычэпах — усюды салдаты, салдаты, салдаты. Запыленыя, стомленыя, усмешлівыя.

Пачало ўжо змяркацца, калі...

7. Перакладзіце тэкст на беларускую мову.

Команда разделяется на предварительную и исполнительную: команды могут быть и только исполнительные.

Предварительная команда подаётся отчётливо, громко и протяжно, чтобы находящиеся в строю поняли, каких действий от них требует командир.

По всякой предварительной команде военнослужащие, находящиеся в строю и вне строя на месте, принимают положение «смирно», а в движении ногу ставят твёрже.

## Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё мовы

| Ваенная адміністрацыя | военная администрация |
|---|---|
| ***а) асноўныя тэрміны*** | ***а) основные термины*** |
| Апалчэнне, -я, *н* | ополчение |
| альтэрнатыўная служба | альтернативная служба |
| ваеннае становішча | военное положение |
| вайсковая служба | воинская служба |
| воінская павіннасць | воинская повинность |
| запас, *-у, м* | запас |
| звыштэрміновая служба | сверхсрочная служба |
| мабілізацыя, -і, *ж* | мобилизация |
| служба ў запасе | служба в запасе |
| тэрытарыяльныя войскі | территориальные войска |
| усеагульны воінскі абавязак | всеобщая воинская обязанность |
| ***б) органы ваеннага кіравання*** | ***б) органы военного управления*** |
| аддзел, -а, *м* | отдел |
| ваенны камісарыят | военный комиссариат |
| ваенны(ая) савет(рада) арміі | военный совет армии |
| галоўны штаб | главный штаб |
| калегія міністэрства абароны | коллегия министерства обороны |
| упраўленне, -я, *н* (управа, -ы, *ж*) | управление |
| штаб, *-а, м* | штаб |
| ***в) злучэнні, часці*** | ***в) соединения, части*** |
| аб'яднанне, -я, *н* | объединение |
| аддзяленне, -я, *н* | отделение |
| армія, -і, *ж* | армия |
| батальён, -а, *м* | батальон |
| батарэя, -і, *ж* | батарея |
| брыгада, -ы, *ж* | бригада |
| гарнізон, -а, *м* (залога, -і, *ж*) | гарнизон |
| злучэнне, -я, *н* | соединение |
| корпус, -а, *м* | корпус |
| рота, -ы, *ж* | рота |
| узвод, -а, *м* (звяз, -у, *м*) | взвод |

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

Працяг. Пачатак у №№ 24—26.

## Адкуль з'явіліся ў нас татары?

Татары пасяліліся на Беларусі ў канцы XIV стагоддзя. Гэта былі прыхільнікі хана Тахтамыша, якія мусілі шукаць тут прытулку, уцякаючы з Залатой Арды пасля паражэння ў міжусобнай барацьбе. Дальнабачны палітык, вялікі князь Вітаўт зычліва прыняў іх, узяўшы на вайсковую службу, і выдзеліў землі для вядзення гаспадаркі на Віленшчыне і Меншчыне. Татары пабудавалі хаты, узвялі мячэці. Яны вельмі цанілі Вітаўта за добрае стаўленне да ісламу, называлі яго сваім ханам, спадаром, апірышчам мусульманаў на Захадзе. Беларускія татары на чале з Джалал эд-Дзінам прынялі чынны ўдзел у Грунвальдскай бітве, спрычыніліся да перамогі над крыжакамі.

Колькасць татараў у нашай дзяржаве павялічвалася ў выніку натуральнага прыросту, эміграцыі з Паволжа і Крыма, а таксама за кошт тых крымскіх татараў, якіх бралі ў палон падчас іх набегу на Беларусь у XV і XVI стагоддзях. Гэтак, у 1506 годзе, калі татарскае войска было разгромлена пад Клецкам, частку палонных пасялілі ў Менску.

Татары, што жылі ў гарадах і мястэчках, займаліся рамёствамі (найбольш гарбарствам, рымарствам, кушнерствам), гародніцтвам, рамізніцтвам, а пазней праклад-кай чыгунак.

Ужо на пачатку XVI стагоддзя татары перайшлі на беларускую мову, толькі малітвы засталіся на арабскай і чагатайскай (усходнецюркскай) мовах. Захаваліся святыя для мусульман рукапісныя кнігі — Кур'ан і Хамаіл. Вельмі цікавыя рукапісныя кнігі Аль-Кітабы, напісаныя арабскім пісьмом, але на беларускай гутарковай мове. Гэтыя кнігі надзычай каштоўныя і для беларусаў. Яны — унікальныя помнікі старадаўняй беларускай мовы, бо арабскі алфавіт у адрозненне ад кірыліцы і лацінкі выдатна перадае асаблівасці яе гучання.

За 600 гадоў, якія татары жывуць на гэтай зямлі, яны вельмі многае пераймалі ад беларусаў, але і самі зрабілі некаторы ўплыў на іх. Яны перадалі свае навыкі ў конегадоўлі, гародніцтве, гарбарстве. Нямала слоў татарскага паходжання ўжываюцца ў беларускай мове.

Татараў мелі ў сваіх радаводах знакамітыя пісьменнікі — Генрык Сянкевіч, Францішак Багушэвіч; татары з паходжання вядомыя філолагі — Антон Мухлінскі, Сцяпан Александровіч.

Сёння на Беларусі жыве больш за 12 тысяч татараў, створана культурна-асветнае згуртаванне «Аль-Кітаб», якое выпускае штоквартальнік «Байрам» (свята). У мястэчку Іўе на Гарадзеншчыне дзейнічае мячэць, на жаль, пакуль што адзіная ў Беларусі.

**Ібрагім КАНАПАЦКІ.**

## Якія старажытныя плямёны былі нашымі продкамі?

Ужо з глыбокай старажытнасці на Беларусі жылі розныя, пераважна індаеўрапейскія, плямёны. У другой палове 1-га тысячагоддзя па Нараджэнні Хрыстовым наш край пачалі засяляць славянскія плямёны, што спрычынілася да славянізацыі мясцовых балтаў. Славяна-балцкі сінтэз вёў да фармавання старабеларускага этнасу.

Згодна летапісаў і археалагічных даследаванняў паўднёвую і цэнтральную частку Беларусі займалі *драгавічы* (дрыгавічы), Пасожжа — *радзімічы*, Падзвінне і паўночнае Падняпроўе — *крывічы*. Яны складалі саюзы плямёнаў, мелі свае гарады і дзяржавы — княствы. З балцкіх плямёнаў на тэрыторыі Беларусі летапісы захавалі нам назовы *літвы* і *яцьвезі*, якія жылі на захадзе і паўночным захадзе.

Матэрыяльная і духоўная культура славянскіх плямёнаў — продкаў беларусаў, як сведчыць археалогія, мала розніліся між сабою. Выключэнне складаюць упрыгожанні, асабліва металічныя скроневыя колцы. У драгавічанак гэта былі зярнёныя буйныя пацеркі, у крывічанак — бранзалетападобныя колцы, на Пасожжы насілі колцы сяміпрамянёвыя.

Найважнейшую ролю ў нашай старажытнай мінуўшчыне адыгралі крывічы. Яны ўтварылі першую вядомую з летапісаў беларускую дзяржаву — Полацкае княства. З XIII стагоддзя на авансцэну гісторыі выходзіць Новагародак (Наваградак). Беларусы Панямоння, падпарадкаваўшы суседняе племя літву, заклалі падмурак нашай новай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.

З умацаваннем дзяржаўных інстытутаў у выніку інтэграцыйных працэсаў да XII стагоддзя пляменавы падзел на Беларусі ў асноўным знікае. Назовы ж *крывічы (Крывія)*, а пазней *ліцьвіны (Літва)* пачынаюць азначаць дзяржаўную прыналежнасць, з'яўляючыся гістарычнымі этнонімамі беларусаў.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

## «Беларусь пад нямецкай акупацыяй»

так называецца кніжка Юры Туронка, якая накладам пяць тысяч паасобнікаў выйшла ў выдавецтве «Беларусь». Кніжка напісана паводле доктарскай манаграфіі аўтара, таму ўся сенсацыйнасць матэрыялу мае пад сабой грунтоўныя навуковыя падставы. Юры Туронак адшукаў у архівах багаты фактычны матэрыял, які дадае шмат новых фактаў гістарычнаму шляху Беларусі да сваёй незалежнасці.

Упершыню кніжка Ю. Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» выйшла ў 1989 годзе ў варшаўска-вроцлаўскім выдавецтве «Верс». Застаецца пашкадаваць, што да гэтага часу нашы выдавецтвы цікавыя кнігі па гісторыі Беларусі выдаюць мізэрнымі тыражамі.

# З ці СА?

КУЛЬТУРА МОВЫ

Перад словамі, якія пачынаюцца са спалучэння зычных, дзе першы **з, с, ж, ш** або **м**, замест прыназоўніка **з** вымаўляецца і пішацца прыназоўнік **са**: *са збору, са станка, са жменю, са шклянкі, са мною.*

Такое правіла прапануе нам сучасная школьная граматыка (гл. «Некаторыя асаблівасці ўжывання прыназоўнікаў»).

Ці дасканала гэтае правіла, ці паслядоўнае яно, ці не мае выключэнняў? І якая наша гістарычная традыцыя? Мае назіранні сведчаць, што правіла гэтае не зусім дасканалае і не вытрымана ні гістарычнай, ні сённяшняй практыкай. Пра гісторыю прыназоўнікаў **з** і **са**, іхнюю прыроду я ўжо пісаў («Роднае слова», 1991 г., № 7—8).

З часу публікацыі артыкула «Слоўка пра прыназоўнік **з**» мінула амаль два гады. За гэтую пару намножылася шмат іншых фактаў, назіранняў, якія сведчаць, што так званы «пераход» **з** у **са** актыўна вызначыўся ў пару развітога сацыялізму, калі пачалося інтэнсіўнае зліццё моў, падгон асаблівасцей беларускай мовы пад расійскі правапіс. Раней нашы пісьменнікі пісалі:

**Паўлюк Багрым.** У ваўкалака абярнуся, з шчасцем на вас азірнуся.

**Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.** Гэта ж кветкі з свойскай веткі.

**Янка Купала.** Усё сходзіць з свету доўга-скора. Аб няпраўду разаб'ешся з сваёй барацьбою. К парогу з страхою цісну́цца... Аб'едкі з стала дужага... Што ты маеш з сваёй звадкі?..

**Максім Багдановіч.** Сеў хлопчык з шклянкаю... Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш. Каб з слязьмі разам...

Праўда, Купала і Багдановіч не ўсюды і не заўсёды паслядоўныя. Сустракаем у іх і *са сну*, і *са слёз*. А ў Багдановіча нават *са йстужкай, са крыніцай*. І ўсё ж у нашых класікаў пераважае прыназоўнік **з**.

**Максім Гарэцкі.** На могілках ужо паказваюцца цвяточкі з светла-зялёнымі... лісточкамі. Сам добра ведаеш, як жыву я, калі прыязджаю з школы.

**Лукаш Калюга.** Мастакі заўсёды голых жанчын з сваіх жонак малююць. А поруч з шчасцем ёсць жыццё.

**Якуб Колас.** Прэзідыум з свайго боку напісаў заяву. Слядок з слядочкам супадае, бы лапка тут адна ступае.

**І. Дварчанін.** ...з сталых беларускіх часопісаў... з старыммі пісьменнікамі... з школьнае лаўкі.

**Кузьма Чорны.** З строя выйшаў ён праз дзень. З мяне здзекуешся, з старога чалавека? З свайго тавару былі боты; З свайго лыка і лапці. Да суда ён не звязваў гэтую рэч з славаю.

**Карусь Каганец.** Жывуць так Віт з сваёй дачкой. Ваўчок малады, па Палессі хадзячы, нагадваў сабе з светам зміруцца.

І такія прыклады я магу множыць і множыць.

З нашых сучаснікаў перавагу прыназоўніку **з** перад збегам зычных аддаюць Валянцін Рабкевіч, Павел Сцяцко, Генадзь Тумаш. Больш-менш дэмакратычныя адносіны да прыназоўніка **з** назіраем у часопісе «Полымя», там ставяцца ўважліва да думкі аўтараў, лічацца з імі. Зрэдку пракідваецца напісанне тыпу *з старасвеччыны, з Свіслачы, з шчаслівых старонак* у «ЛіМе». Усе іншыя выданні трымаюцца прыназоўніка **са** ў згаданых пазіцыях. Карэктары ды стылісты тут рашуча ўсіх аўтараў падганяюць пад адзін грэбень. Але гэтыя стылісты чамусь не заўважаюць, што ўжо многія пачалі пісаць і друкаваць: *са двара, са дна, са ўсяго*. Пішам прыназоўнік **са**, калі пасля зычнага ідзе апостраф, а за ім галосны: *са з'едлівай, са з'яўленнем.*

Не ведаю, наколькі такое напісанне адпавядае ладу беларускай мовы, але ў правілах яно нідзе не абгаворана. Здараецца і такое, калі на адной старонцы ў аднаго і таго ж аўтара маем відавочны разнабой у напісанні згаданага тут прыназоўніка. Скажам, у публікацыі Максіма Лужаніна на адной старонцы маем: Добры хлопец Дзік! І вылузаў *з свае* апранашкі шчанюка. Марат прыходзіў сюды *са сваёй* мамаю. Цешачыся *з свайго* ўдалага падарунка...

Цікава, а што гаворыць пра гэты пераход **з** у **са** Б. Тарашкевіч у сваёй граматыцы? А нічога. Такога правіла, якое мы маем сёння, у Тарашкевічавай граматыцы зусім няма. І прыкладаў пераходу няма. А вось прыклады з прыназоўнікам **з** перад **з, с, ж, ш, м,** рассыпаныя па практыкаваннях, маем. Напрыклад: Кажаны вылецелі *з сваіх* месц. А кума ўжо справілася *з сваёй* работай. Цесля зваліўся *з страхі.*

Браніслаў Тарашкевіч, безумоўна, не засяроджваўся, скажам, як я, на гэтым прыназоўніку. Для яго ён быў адзіны і натуральны. Мяне ж на гэтым засяродзіцца змусіў наш разнабой.

Пра недасканаласць згаданага тут, пра пераход прыназоўніка **з** у **са** сведчаць і такія прыклады. Пішам *са мною*, але — *з многімі, з мноствам, з множнікам, з мнагаборцам, з мнагаклетачным, з мнагачленам, з мнаганожкай, з мнагалеццем, з мнагажэнцам, з мнагалюдным, з мнагаслоўем* і г.д.

А ў граматыках нашых, нават акадэмічных, апісальных, пра гэта ні слова. То што ж за з'ява такая? Між іншым, здаецца, у Мрыя я напаткаў і форму *з мною*. І гэта зусім натуральна: раз *з многімі*, то і *з мною, з мной.*

Ну, а які злучнік пісаць перад абрэвіятурамі *ЗША, СНД, СССР?* Паводле правіла — **са**: *са ЗША, са СНД, са СССР*, але адчуванне — вымавіць такое спалучэнне цяжка, амаль немагчыма. Таму на практыцы маем: Чалавек з СНД за свае капейкі нічога не можа набыць у Літве. Нічога ў правілах не сказана і пра напісанне прыназоўнікаў перад лічэбнікамі.

Ну, але хай пра гэта думаюць моваведаўцы. Мой клопат паказаць непаслядоўнасць гэтага правіла, звярнуць увагу на гістарычную пісьмовую традыцыю. А яна гаворыць, што такога пераходу прыназоўніка **з** у **са** ў нашай моўнай гістарычнай практыцы не было. У нашым slаўтым Статуце Літоўскім таксама маем: *з старастам, з старшыною.*

Што, нашы нашчадкі горш разумелі законы роднай мовы? Разумелі, ды яшчэ як! Скажаце, не было граматыкі! Так, не было. Але гэты довад у згаданай сітуацыі якраз на карысць нашых нашчадкаў. Не маючы ні друкаваных перыядычных выданняў, ні граматыкі, разрозненыя, тым не менш, яны цвёрда, паслядоўна трымаліся напісання: *з сваім, з старастам, з старшынёю.*

Якое ж выйсце? Думаецца, правіла пра пераход **з** у **са** трэба дэмакратызаваць, удакладніць, каб яно не адсякала нашу ранейшую моўную практыку ад сучаснай. А пакуль пануе манаполія прыназоўніка **са**.

Прыклады ж з прыназоўнікам **з** у згаданай тут моўнай пазіцыі перад збегам зычных у падручнік не дапускаюцца.

А гэта неаб'ектыўнае адлюстраванне нашай моўнай практыкі. З-за гэтага правіла па-за падручнікамі мовы застаецца амаль уся наша класіка. Вось што азначае правіла пераходу **з** у **са**, якое не лічыцца з тым вопытам, што напрацавала наша пісьмо за ўсе папярэднія стагоддзі. А правіць класікаў мы не маем права. Вось дзе і існое ў нашым кнігадрукаванні *з сваёй* і *са сваёй, з смелым* і *са смелым*.

У школьных жа ды акадэмічных граматыках пра гэта — ні слова... Кажуць: **са** — гэта мілагучна, а **з** цяжка вымаўляць перад збегам зычных. Але ж з песні слова не выкінеш:

**Родзе шнур несамавіта,**
**Колькі б працы ўнёс,—**
**Ячмень з сажай, з званцом жыта,**
**З свірэпкай авёс.**

*(Янка Купала. «З песняй аб сваёй старонцы»).*

Хочам мы гэтага ці не, мусім чытаць так, як напісаў Купала. Значыць, можам і вымавіць.

Нехта яшчэ скажа: якая розніца — **з** ці **са**? А не кажыце! Розніца вялікая. Найперш, лішняя непатрэбная літара (а нашы мовазнаўцы любяць эканоміць!). А другое — зусім іншая артыкуляцыя гэтых прыназоўнікаў з наступнымі словамі. *З сваім братам* — я вымаўляю адным дыхам: *ссваім братам* (**з** асімілюецца з наступным гукам і вымаўляецца падоўжана). Зусім іншая артыкуляцыя з прыназоўнікам **са**: *са сваім, са стала.*

**З** ці **са**? Давайце падумаем, разважым! Да гэтай развагі нас клічуць Сапега і Рымша, Багрым і Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч, Купала, Колас, Янка Скрыган і шмат-шмат хто іншы.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

*Да ведама*

## Не такія мы ўжо бедныя

**У Беларусі выяўлена звыш 4 тысяч месцанарджэнняў карысных выкапняў, у тым ліку паліўна-энергетычных рэсурсаў, горнахімічнай сыравіны, даламітаў і інш. Паводле апошніх звестак, ёсць нават залежы золата і алмазаў.**




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Творчасць вядомага французскага паэта Леконта дэ Ліля (1818—1894) увабрала ў сябе матывы паэтычнай творчасці розных народаў, але вызначалася спецыфічнымі вытанчанымі формамі.

*Леконт дэ ЛІЛЬ*

## Эльфы

Убраныя ў мяту, чабор і куколі,
Вясёлыя эльфы скачуць па полі.

З пушчы дрымотнай, маўклівай
Выехаў рыцар імклівы;
Чорны конь сячэ прасторы,
Блішчаць залатыя шпоры,
Сярэбраны шлем і латы
Асвятляе месяц рагаты.

Убраныя ў мяту, чабор і куколі,
Вясёлыя эльфы скачуць па полі,

Мільгацяць, мітусяцца ў паветры...
Каралеўна пытаецца ветла:
— Смелы рыцар, куды так позна?
Уночы і страшна, і грозна.
Сцеражыся нядобрага вока!
Нашто табе ехаць далёка?

Убраныя ў мяту, чабор і куколі,
Вясёлыя эльфы скачуць па полі.

Запрашаем да нашага кола,
Паглядзі, як прыгожа наўкола!
— Не магу, я еду жаніцца,
Заўтра шлюб мой павінен адбыцца.
Не турбуйце майго кахання,
Адпусціце, бо хутка світанне.

— Ах, рыцар, пабудзь з намі разам!
Я дам табе персцень з чароўным тапазам,
Дам плацце, сатканае з месячных нітак,
З расы прыгатую мядовы напітак...
Не хочаш? — І пальцам гнеўна
Кранула яго каралеўна.

І памчаўся ён прэч, як шалёны,
Ў цёмны лес цераз поплаў зялёны,
Але раптам спыніўся ў трывозе.
Перад ім стаіць здань на дарозе:
Уся ў белым, зубамі ляскоча,
Абняць, ухапіць яго хоча.

— Не чапай мяне! Згінь, пачвара ліхая!
Мая нявеста мяне чакае.
— О так, я чакаю, жаніх мой мілы!
Мы справім вяселле каля магілы:
Я памерла!.. — Ён глянуў з тугою
І ўпаў нежывы перад ёю.

Убраныя ў мяту, чабор і куколі,
Вясёлыя эльфы скачуць па полі.

*Пераклад з французскай Юркі ГАЎРУКА.*




М. БАЙКОЎ і С. НЕКРАШЭВІЧ

Члены Інстытуту Беларускае Культуры

БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІ

СЛОЎНІК

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1926



## З нябыту

**вярнула выдавецтва «Народная асвета» забароненыя калісьці «Беларуска-расійскі слоўнік», які ў 1922 годзе за вельмі кароткі тэрмін (4 месяцы) быў падрыхтаваны Мікалаем Байковым і Сцяпанам Некрашэвічам. Абодва ў 1930 годзе былі рэпрэсіраваны. Мікалай Байкоў, рускі па нацыянальнасці, трапіў у Менск пасля заканчэння Маскоўскай духоўнай акадэміі, але, як сапраўдны інтэлігент і вучоны, пранікся беларускім адраджэннем і дапамагаў Слоўнікавай камісіі Інбелкульта.**

**У гэтым факсімільным выданні чытач напаткае шмат слоў, чутых у дзяцінстве: багата (многа), май (бярэзінкі, якія ставяць у хатах на Сёмуху), пыцік (цікаўны), ройсты (лясныя зарасці), скарада (барана), скарадзіць (баранаваць). Некаторых з іх няма ў пяцітомным Тлумачальным слоўніку беларускай мовы. А вось, прыкладам, слова хіжы — памятаеце, у Дубоўкі: хіжыя шэршні — М. Байкоў і С. Некрашэвіч падаюць зусім іншае яго значэнне і перакладаюць яго расійскім словам «проворный». Цяпер мы будзем ведаць, што хіжы не азначае драпежны... Можна спадзявацца, што і факсімільнае выданне хутка стане бібліяграфічнай рэдкасцю.**

З. С.

### Паэзіі радок чароўны

Паэт Станіслаў Валодзька па волі лёсу ўжо больш за пяць гадоў жыве ў Латвіі ў горадзе Даўгаўпілсе, але сувязі з роднай зямлёй не губляе. Вясной Станіслаў Валодзька наведаў рэдакцыю і пакінуў свае творы, з якімі мы і знаёмім нашых чытачоў.

*Станіслаў ВАЛОДЗЬКА*

* * *

Вянок надзеі васільковы
Няўжо дадзім сарваць зладзеям,
Хіба дапусцім, каб надзеі
Айчыне зноў вянок цярновы,
Якім ГУЛАГ быць можа новы,
Каб нам пасля нашчадкаў словы
Услед каменнямі ляцелі?!

### Зара

Віднее ўжо, нібы
Зямлі душа світае.
І вось зара — як німб,
З якім зямля святая.

Начны згарае страх,
І мы з табой — сагрэты:
Купальскага кастра
Сястра — заранка гэта.

Сустрэчы нашай з ёй
Шчаслівае здарэнне.
У шчырасці сваёй
Яна — як азарэнне,

Святочная зара
Ружовая, як мара!
Цудоўная пара,
Як мы з табою пара!

### Рэчка

Іх такіх мялее ўжо на свеце.
Поўніцца на свеце іх другіх.

— Ну а ёй заўвагу зробіць вецер —
Б'е, нібы ў аглоблі, ў берагі!

— Ну а навальніца адлупцуе,
Так з сябе выходзіць, што — ого!

— Гэта ж закахалася ў ляшчынніка!
Бач ты, аж віецца ля яго!

— Ногі нават мыць яму гатова!
— Гэта на яе кідае цень!

— Ведае, што робіць — хутка восень —
Хоча ад яго азалацець!

— Нават пастухоў прываражыла —
Перад ёй аж сцелюцца, глядзі!

— Вось меліяратары прыедуць —
Будзе як па нітачцы хадзіць!

*Чыталі?*

# Хто мы такія?

Маскоўскія беларусы, як і прадстаўнікі нашага народа ў іншых кутках цяперашняга бліжняга замежжа, аб'ядналіся. Іх згуртавала культурна-грамадскае Таварыства імя Францішка Скарыны. Некалькі гадоў назад яны задумаліся аб выданні ўласнага альманаха ці гадавіка, бо матэрыялаў, што тычацца нашай нацыянальнай гісторыі, у маскоўскіх музеях і архівах захоўваецца на дзіва шмат. Вельмі многія з іх дагэтуль невядомы нават спецыялістам.

Задумка ўзнікла, але паўстала пытанне аб яе ажыццяўленні. І тады «скарынічы» пачалі, як кажуць, стукацца ў дзверы выдавецтва «Мастацкая літаратура». Пашанцавала, бо там знайшлі аднадумца ў асобе загадчыка рэдакцыі драматургіі і крытыкі Яўгена Лецкі. Так у 1991 годзе пабачыў свет літаратурна-навуковы зборнік «Скарыніч». На пальцах кнігарань ён не заляжаўся, адразу прыйшоўся даспадобы ўсім, хто хоча болей ведаць пра мінуўшчыну роднай зямлі, пра лепшых яе прадстаўнікоў.

Не адкладваючы справу надоўга, масквічы падрыхтавалі другі выпуск, бо вельмі ж хацелі, каб «Скарыніч» стаў гадавіком. На жаль, цяжкасці з паперай, іншымі матэрыяламі абумовілі тое, што ён выйшаў з друку толькі ў сёлетнім маі. Укладальнік выпуска А. Каўка паклапаціўся, каб той, хто пазнаёміцца са зборнікам, атрымаў для сябе нямала звестак, якія б дапамаглі лепш разабрацца, хто мы на гэтай зямлі, адкуль пайшлі... Першы раздзел «Прарок на Бацькаўшчыне» прысвечаны Францішку Скарыне. Для разумення скарынаўскага феномена шмат даюць адказы на анкету, прапанаваную вядомым пісьменнікам і навукоўцам. Сваімі развагамі дзеляцца С. Яновіч, У. Конан, А. Мальдзіс, В. Рагойша, Л. Баршчэўскі, У. Дамашэвіч, Н. Загорская, А. Ліс, прафесар славістыкі з Нью-Йорка Т. Бэрд, дацэнт Лонданскага універсітэта Д. Дынглі, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі П. Лойка, знакаміты музыказнаўца і гісторык з Лондана Г. Пікарда, доктар медыцыны з Манрэаля С. Скарына і іншыя.

Роздум над творчасцю выдатнага нацыянальнага асветніка робіць Г. Лебедзеў («Пошук не спыняецца»). У. Конан («Два каментарыі да Бібліі») палемізуе з некаторымі тлумачэннямі да выдання скарынаўскіх прац і матэрыялаў. Я. Неміроўскі («Бібліяграфічны даведнік пра Францішка Скарыну») дэталёва аналізуе даведнік «Пяць стагоддзяў Скарыніяны», падрыхтаваны В. Тумашам і выпушчаны ў 1989 годзе Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва ў Нью-Йорку.

Наступны раздзел — «Цяпло роднага слова». Тут што ні матэрыял, то адкрыццё. Гэта, напрыклад, знаёмства з апавяданнем Я. Лёсіка «Ня ўсе разам, ягомосьці», якое выйшла ў 1914 годзе асобнай кніжкай у друкарні знакамітага Марціна Кухты. Ці не адзінкавы адпаведнік выдання захаваўся ў колішняй маскоўскай «Ленінцы». Прынамсі, аўтар прадмоўкі да публікацыі А. Каўка сведчыць: «У кнігасховішчах Менска гэтае рэдкае выданне бачыць мне не даводзілася...»

Друкуецца працяг «Хронікі» М. Улашчыка (пачатак у першым выпуску «Скарыніча») — адсея яшчэ аднаго беларускага пакутніка духу. Апублікаваны артыкул Алесі Бабарэкі «Маміны песні», дзе змешчана многа арыгінальных твораў нашай вусна-паэтычнай творчасці. А ў публікацыі «Яднанне Бацькаўшчынай: Масква — Гудзевічы» — лісты з архіва Гудзевіцкага літаратурнага музея.

У наступным раздзеле «Вяртанне» — сустрэча з трыма руплівіцамі беларушчыны: І. Луцкевічам, А. Смолічам і Я. Станкевічам. Заключны раздзел «Хто мы такія?» у нейкім сэнсе падсумоўвае папярэднія матэрыялы.

Безумоўна, дасведчаны чытач заўважыць, што асобнымі публікацыямі «Скарыніч» пераклікаецца з гісторыка-літаратурным зборнікам «Шляхам гадоў», тры выпускі якога пабачылі свет у той жа «Мастацкай літаратуры». На заканчэнне хочацца пажадаць «Скарынічу», каб ён неўзабаве стаў гадавіком.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

# «Ходзіць жораў па таку»




Так называецца невялічкая кніжка, выпушчаная выдавецтвам «Навука і тэхніка» накладам 30 тысяч паасобнікаў. Яна адкрывае серыю зборнікаў дзіцячага фальклору, разлічаную на выхавацеляў і настаўнікаў пачатковых класаў, на дзяцей малодшага і сярэдняга ўзросту. У кніжку ўключаны гульні, лічылкі, гульнёвыя песні. Зараз выдавецтва рыхтуе да друку зборнікі калыханак і пацешак («Ішоў бай па сцяне»), казак, загадак пра жывёл і песень («Ішла Каляда калядуючы»).

Фінансавую падтрымку першаму зборніку (складальнік Г. Багдановіч) аказалі навукова-вытворчая фірма «Ваўкалака» і Цэнтр этнакасмалогіі «Крыўя».

Калі з'явілася жаданне папоўніць сваю бібліятэку кніжкай «Ходзіць жораў па таку», зазірніце ў бліжэйшы кіёск «Белдруку» ці замоўце яе пісьмова: 220114, Менск, а/я 407.

Паўлюк БЫКОЎСКІ.

# РЭГЛАМЕНТ

## Першага з'езда беларусаў свету

**7 ЛІПЕНЯ**

— адкрыццё Нарачанскага форуму для дзяцей і моладзі (летнік «Зубраня» на возеры Нарач)

15.00—16.00 — прэс-канферэнцыя арганізатараў з'езда для журналістаў (вул. Фрунзе, 5)

17.00 — адкрыццё мастацкай выстаўкі «Жыве Беларусь» (Палац мастацтваў, вул. Казлова, 5)

18.00 — сустрэча з кіраўнікамі суполак у ЗБС «Бацькаўшчына»

19.00 — свята паэзіі «Палымянае слова Купалы» (парк імя Я. Купалы)

**8 ЛІПЕНЯ (чацвер)**

8.30—10.00 — рэгістрацыя дэлегатаў і гасцей з'езда ў оперным тэатры
10.00 — адкрыццё з'езда, уступнае слова
11.00 — выбары рабочых органаў, зацвярджэнне парадку з'езда
11.30 — даклад ад сусветнай беларускай супольнасці «Беларуская ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці», Р. Гарэцкі — віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі, сябра Аргкамітэта і Рады ЗБС
12.30 — перапынак
12.50 — даклад ад урада Рэспублікі Беларусь «Эканамічная сітуацыя і магчымасці выхаду з крызісу»
13.30 — даклад ад заходняй дыяспары
14.00 — перапынак на абед
15.00 — даклад мандатнай камісіі
15.15 — даклад «Згуртаванне Беларусаў Свету «Бацькаўшчына» на цярністым шляху яднання беларусаў свету», Я. Лецка — старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына»
15.40 — выступленні дэлегатаў і гасцей (па 7—10 хвілін)
18.00 — прэс-канферэнцыя для журналістаў з удзелам дэлегатаў з'езда
18.40—20.00 — канцэрт

**9 ЛІПЕНЯ (пятніца)**

10.00—14.00 — пасяджэнні «круглых сталоў» па тэмах: Беларуская дзяржаўнасць; Беларуская гаспадарка, прадпрымальніцтва; Беларуская культура; Беларуская дыяспара
14.00—15.00 — перапынак на абед
15.00—16.00 — адкрыццё выстаўкі «Беларусы ў свеце» ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны. Адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар Максіма Гарэцкага
15.00 — «круглы стол» з удзелам прадпрымальнікаў беларускага замежжа (вул. Рэвалюцыйная, 15)
16.00 — сустрэчы па інтарэсах (у арганізацыях, установах і г.д.)

**10 ЛІПЕНЯ (субота)**
*(зала опернага тэатра)*

9.00 — выступленні дэлегатаў і гасцей (7—10 хвілін)
11.00 — падагульненне работы «круглых сталоў», выступленні вядучых (па 10—11 хвілін)
12.00 — перапынак
12.20 — прыняцце выніковых дакументаў
14.00 — перапынак на абед
15.00 — выбары кіруючых і каардынуючых органаў
17.00 — закрыццё з'езда
17.15 — прэс-канферэнцыя арганізатараў і дэлегатаў для журналістаў
19.00 — сяброўская вячэра




## «Ліпень гаючы, але даручы»

**Ліпень** — апагей лета. У белую квецень ахінаюцца ліпы, ад якіх і пайшла назва месяца. Прыходзіць пара касавіцы, якой часам перашкаджаюць ліўневыя дажджы з градам і моцнымі вятрамі. Шмат прыказак, прымавак і прыкмет звязана менавіта з касьбою. Народная мудрасць кажа: «Каса любіць брусок і сала кусок», «Добры касец, калі сала лавец», «Не косіць Хведзька, бо ў торбе рэдзька», «Каса любіць сытага, а цэп — галоднага», «Не хваліся травой — хваліся сенам», «У добрага гаспадара сенца бы іскарка», «Атаўка — сену дабаўка, ды не накасіў Саўка», «Як паспеў званец, дык і сенакосу канец» і інш.

15 ліпеня — *Дзень перамогі пад Грунвальдам (1410)*, калі аб'ядналае войска Беларускай і Польскай дзяржаваў нашчэнт разбіла крыжакоў.

27 ліпеня нацыянальнае свята беларусаў — *Дзень незалежнасці*. У 1990 г. у гэты дзень на сесіі Вярхоўнага Савета БССР была абвешчана Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, паводле якой наша Бацькаўшчына набыла статус незалежнай і прававо дзяржавы.

2 (пятніца). **Ун.** *Палажэнне рызы Багародзіцы ў Бляхэрне.*

4 (нядзеля). **Ун.** *Пятая нядзеля пасля Сёмухі.*

6 (аўторак). **Пр.** *Купала, Купалле.* Адно з самых старажытных свят, якое адносіцца да часу, што папярэднічаў славянскаму. Было вядома індаеўрапейскім народам яшчэ ў IV—III тысячагоддзях да н.э. Пазней існавала ў народаў сучаснай Еўропы пад рознымі назвамі. Захавалася ў нямногіх краінах, а асабліва на Беларусі. Згадваецца ў беларускіх граматах XIV стагоддзя. Як сцвярджаюць вучоныя, ва ўсходніх славян назва свята дадзена па імені яго галоўнага персанажа — лялькі (мужчыны ці жанчыны), якая ў беларусаў называлася яшчэ і Марай. Ляльку гэту, што ўвасабляла смерць, у час святкавання абраду тапілі ў вадзе. «Купала» паходзіць ад дзеяслова *купаць, кіпець* (індаеўрапейскі корань «сир» са значэннем *кіпець, горача жадаць).*

У старажытнасці існаваў культ сонца, як крыніцы цяпла і святла. Яму маліліся, пакланяліся. Урачыстасць была прымеркавана да летняга сонцастаяння, калі свяціла дасягала максімальнай вышыні над гарызонтам, а прырода свайго найвялікшага росквіту. Пасля таго як хрысціянская рэлігія сумясціла з гэтым язычніцкім святам сваё — у гонар Іаана Хрысціцеля (Прадцечы), свята набыло здвоеную назву (Іван+Купала=Іван Купала). Паколькі Купалле адзначалася ў гонар сонца, то і рытуалы свята суадносіліся з сонцам і агнём. Галоўнае месца ў абрадавасці займала свяшчэннае вогнішча, якое ладзілася на гары. Каб ачысціцца ад благога, набыць жыццёвую моц і забяспечыць урадлівасць зямлі, удзельнікі абраду скакалі праз агонь (ад вышыні скачка залежала, па іх уяўленні, вышыня збажыны), спальвалі розны друз. Высока ўзнесенае над вогнішчам кола сімвалізавала сонца.

Шматлікія купальскія абрады, павер'і, легенды, песні, казкі, варажба жывуць у народзе. На Беларускім Палессі, накрыклад, захаваўся звычай здабываць агонь для купальскага вогнішча, тручы два кавалкі дрэва. Адна з самых паэтычных купальскіх легенд — пра папарацькветку, якая зацвітае напярэдадні свята, а яе кветачкі-агеньчыкі наводзяць уначы адчайна смелых дзецюкоў на зачараваны скарб. Такі ж паэтычны характар носіць варажба: дзяўчаты пускаюць па рацэ вяночкі, каб адгадаць будучыню. Святкуецца Купалле ў ноч з 6 на 7 ліпеня. Народная прымаўка кажа: «На Івана ноч адарвана».

7 (серада). **Пр.** *Нараджэнне Яна Хрысціцеля.*

10 (субота). **Пр.** *Самсон* *(«На Самсона дождж — сем тыдняў тож»,* «Сем братоў варожаць, колькі тыдняў пагоды»).

11 (нядзеля). **Ун.** *Шостая нядзеля пасля Сёмухі.*

12 (панядзелак). **Пр.** *Дзень апосталаў Пятра і Пайла.* У народзе — *Пятро.* Людзі казалі: «На Яна баба п'яна, а на Пятро — у жыце ядро», «На Яна нажала, на Пятра напякла». Прыкметы: салавей і зязюля пяюць да Пятра.

У старажытнасці — язычніцкае земляробчае свята, назва якога не збераглася. У яго аснове — культ зеляніны і кахання, аб чым сведчыць аграрна-магічная накіраванасць яго абрадаў, песень і варажбы. Пятро — арганічны працяг купальскіх урачыстасцей. Моладзь даўней вадзіла карагоды, ад Купалы і да Спаса.

13 (аўторак). **Ун.** *Сабор арханёла Гаўрылы.*

14 (серада). **Пр.** *Кузьма і Дзям'ян* — старажытнае земляробчае свята, назва якога таксама не дайшла да нас; у некаторых рэгіёнах — прысвятак кавалёў. Пачатак сенавання. У паўднёвай Беларусі — зажынкі («На Кузьму і Дзям'яна касіць не рана», «Святы Пятро жыта спеліць, святы Кузьма сякеры робіць, а святы Дзям'ян сена грабе»).

17 (субота). **Пр.** *Андрэй.* Адзін з апекуноў земляробства. («Святы Андрэй за ўсіх мудрэй — саху ладзіць, каня гладзіць»).

18 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля айцоў першых шасці сабораў.*

20 (аўторак). **Ун.** *Прарок Ілья.*

25 (нядзеля). **Ун.** *Восьмая нядзеля пасля Сёмухі.* **Пр.** *Прокл.* Пра яго казалі, што прыносіць вялікую расу, таму людзі стараліся высушыць сена да Прокла. **Кат.** *Якуб* («Які Якуб да паўдня, такая да снежня зіма»).

26 (панядзелак). **Пр.** *Гаўрылей.* Дзень абяцае град на каноплі. **Кат.** *Ганна.* («Дождж на Якуба — для жалудоў згуба, а як Ганна з дажджом — дык гарох з чарвяком»).

27 (аўторак). **Ун.** *Панцеляймон Велікамучанік.*

28 (серада). **Ун.** *Цудатворная ікона Маці Божай Смаленскай.*

29 (чацвер). **Пр.** *Афінаген.* Перапыняецца летняя спёка, заціхаюць птушкі.

30. **Пр.** *Пятніца перад Ільіным днём.* Зазубрыванне сярпоў да жніва.

І. К.

## У рэдакцыйны фонд «Нашага слова» ахвяравалі

1. А. Аляксандр Надсан (Англія) — 20 англійскіх фунтаў
2. Спадар Табола А. І. (Менск) — на патрэбы па росшуку звестак пра дзейнасць саюза Беларускіх патрыётаў — 2880 руб.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**7 ЛІПЕНЯ, СЕРАДА**

18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.
22.15. Да I з'езда беларусаў свету. «Слова».
22.25. Беларусы свету. Перадача 2-я. «Спадчына».
23.25. НІКа.

**8 ЛІПЕНЯ, ЧАЦВЕР**

14.55. Беларуская літаратура.
17.35. «Беларусы ў Амерыцы». Дакументальны фільм.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
21.00. Панарама.
22.15. Да I з'езда беларусаў свету. «Слова».
23.55. НІКа.

**9 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА**

14.55. Беларуская літаратура.
17.40. Для школьнікаў. Скарбы беларускай гісторыі.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Беларусы свету. Перадача 3-я. «На сустрэчу з Беларуссю».
21.00. Панарама.
21.45. Да I з'езда беларусаў свету. «Слова».
21.55. I з'езд беларусаў свету. Канцэрт.
23.05. НІКа.

**10 ЛІПЕНЯ, СУБОТА**

17.05. Тэлебом. Шоу-конкурс юных выканаўцаў.
21.00. Панарама.
21.40. Да I з'езда беларусаў свету. «Слова».
0.05. НІКа.

**11 ЛІПЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

16.30. «Беларусь — мая шыпшына». Знаёмства з беларускай дыяспарай у ЗША.
20.00. Панарама.
22.50. У сэрцах жыве Беларусь. Рэпартаж аб рабоце I з'езда беларусаў свету.

## Эпіграмы

Анатоль ЦЫРКУНОЎ

### САЦРЭАЛІЗМ

Мастак спаведваў стыль
«сацрэалізм»,
Карміўся тым, што маляваў
плакаты,
Пісаў: «Мы пабудуем
камунізм!..»—
Пакуль не эмігрыраваў у
Штаты...

### АБ СВАБОДЗЕ ДЗЕЙНАСЦІ

Хто растлумачыць сёння нам,
Каму Закон дае свабоду —
Усяму працоўнаму народу
Ці толькі хапунам?!

### КЕНТАЎРЫ

Запрагай іх зноў і зноў —
Ў цуглях не сумуюць...
Не дастанецца штаноў —
Так перапрамуюць...

### МАЛІТВА СТАРЫХ БЕДНЯКОЎ

Падоўжы, Божа, век нам,
грэшным,
Бо труны ў жудаснай цане.
Стаў нават жарт зласліўца
смешным,
Што ўсіх ён бачыў у труне...

### ВОЛЯ І ДОЛЯ

Калі зрачыся ўласнай волі —
І доля абміне,
Шукай яе ў калгасным полі,
У знаёмым табуне...

### ПРЫЧЫНА І ВЫНІК

Няма найгоршай ўзнагароды
Нашчадкам за віну дзядоў,
Як больш за семдзесят гадоў
Чакаць уласнае свабоды...

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Зак. 278.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 7064 паасобнікі.
Падпісана ў друк 5.07.1993 г. у 15 гадзін.